# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1219) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 18 ЛІПЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Былы партызанскі сувязны і фельчар Іван Саевіч толькі што прывёз воз сена і зараз жа зноў едзе на сенажаць.*

## У Старым Корніне

Вёска прывітала нас у святочным уборы, упрыгожаная лозунгамі і транспарантамі ў гонар 35-годдзя Народнай Польшчы. За вясковым клубам, дзе гучнагаварыцелі разносілі хрыплым голасам песні, таўпіліся ўжо людзі. Найбольш іх было, вядома, са Старога Корніна, але сустракаліся таксама жыхары Ягаднікаў, Махнатага, а нават і Гайнаўкі. Пад дрэвамі, схаваўшыся ад сонца, стаялі аўтамабілі і матацыклы, некаторыя — з нумарамі з далёкіх куткоў нашай краіны.

Усё гэта ўказвала на тое, што БГКТ-оўскі фэст у Старым Корніне сапраўды стаў народным, агульнавясковым святам.

Чаму аднак у гэтым годзе Галоўнае праўленне БГКТ і ўлады гміны ў Дубічах Царкоўных рашылі наладзіць фэст якраз у Старым Корніне?

Антаніна Весялоўская, інструктар ГП БГКТ на Гайнаўшчыну, гэтую справу паясніла мне вось так:

— Раён маёй дзейнасці ахоплівае аж 5 гмін і Гайнаўку. У мінулым годзе наладжвалі мы фэст у Міклашэве, якое знаходзіцца ў межах Нараўкаўскай гміны. У гэтым годзе выбралі гміну Дубічы Царкоўныя, бо даўно тут не было такіх культурна-грамадскіх мерапрыем-

(Працяг на стар. 3)



*У старакорнінскім фэсце прынялі ўдзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і начальнік гміны ў Дубічах Царкоўных Мікалай Чыквін.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Вілюкі

Калі ўважліва ўгледзецца ў невялічкую вёсачку Вілюкі, што належыць да гміны Дубічы Царкоўныя і ляжыць зусім пад паўднёва-заходняй сцяной Белавежскай пушчы, то ва ўсім бачна прысутнасць гэтага магутнага ляснога масіву: і ў будынках, старанна складзеных са смалістага бярвення, і ў той асаблівай удумлівай разважлівасці, якая ўласціва тутэйшым людзям, і ў мінулым гэтай мясціны. А яно пачынаецца недзе ў канцы XV стагоддзя, пасля таго, як па загаду караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Алехна Саковіч — стараста бельскі, Мішко Вішторавіч — лоўчы гаспадарскі, Аляксандр Дрождча — намеснік камянецкі ў гадах 1460-1475 канчатнова аддзялілі Бельскую пушчу ад пушчы Камянецкай і „положили рубежи“ на дрэвах. У гэтых месцах гэтыя зацёсы-„рубяжы“ якраз і забялелі на дубах ды соснах уздоўж рэчкі Орлі ад цяперашняга сяла Карыцкі і да былога маёнтка Вярсток. Вядома, такія знакі, хоць і вельмі пагрозлівыя, бо за іх знішчэнне каралі надта ж жорстка, усё ж не спынялі падуладных бельскаму старасту сялян, бортнікаў, паляўнічых ад „увaходаў“ ва ўладанні намесніка камянецкага. І той адгарадзіў Камянецкую пушчу ад назойлівых ды пранырлівых суседзяў цэлым ланцужком „стралецкіх“ паселішчаў, такіх як Белая Страж, Войнаўка, Вілюкі, Вітава. Стральцы-асочнікі абавязаны былі ахоўваць пушчу і ўсялякага звера ў ёй, за гэта мелі права абрабляць і жыць з валокі ці паўвалокі надзеленай ім зямлі. Тыя „стральцы“, што далі пачатак Вілюкам, атрымалі, відаць, тры з палавай валокі і ад імя бацькі іх Віла павялася назва мясцовасці: Вілюкі — сыны Віла. Цікава, што гэтае прозвішча захавалася тут і да сённяшняга дня: у вёсцы жывуць амаль адны Вілюкі і Савічы. Іхняе „стралецкае“ ўзвышэнне адчуваецца яшчэ і цяпер у тым, што час ад часу, у злосці, назавуць сялян суседніх вёсак „дэвэтдэльнікамі“, гэта значыць прыгоннымі сялянамі, якія 9 дзён працавалі на пана і толькі 1 дзень на сваім палетку.

Трэба прызнаць, што колішнія „стральцы“ ўсё ж патрапілі ўсцерагчы колішнюю Камянецкую, або цяперашнюю Белавежскую пушчу: калі ад былой аграмаднай Бельскай пушчы асталіся толькі мізэрныя зараснікі ды пералескі, то паўднёва-заходняя сцяна Белавежскай пушчы стаіць на тым жа месцы, што і ў канцы XV стагоддзя, значыць болей 500 год!

Аднак „стралецкае“ ці лепш сказаць асочніцкае казачнае прыволле скончылася, бадай, недзе ў канцы XVIII стагоддзя, і Вілюкі сталі такімі ж „дэвэт-

Працяг на стар.4

## „ХАРОШКІ“



„Харошкі“... Колькі ўжо было пра іх у розных газетах і часопісах Савецкага Саюза і іншых краін, ім спецыяльныя праграмы прысвяцілі многія тэлевізійныя студыі, а таксама і Польская тэлевізія! І ўсё ж у нашу рэдакцыю ўвесь час сыплюцца лісты з пытаннямі пра гэты захапляючы беларускі фальклорна-харэаграфічны калектыў. Таму і я, збіраючыся ў маі гэтага года ў журналісцкую камандзіроўку ў Савецкую Беларусь, як адно з галоўных заданняў паставіў сабе наведаць канцэрт „Харошкаў“ і бліжэй пазнаёміцца з імі. Заязджаю ў Мінск, заходжу ў Беларускую дзяржаўную філармонію, а там мне кажуць: „Няма! „Харошкі“ выехалі са сваімі канцэртамі ў Англію...“ Вось табе і на! Можаце, дарагія чытачы, толькі паспачуваць майму жалю...

Прыязджаю праз два тыдні ў Беласток, расказваю пра ўсё ў рэдакцыі сваім калегам, а Вера Валкавыцкая ў адказ на маю прыгоду з „Харошкамі“ падае мне канверт. Раскрываю, чытаю і вачам не веру: сталы чытач „Нівы“ з Англіі А. Лашук паведамляе ў лісце якраз пра надта ж удалыя выступленні „Харошкаў“ ў маі месяцы гэтага года ў шэрагу англійскіх гарадоў і дадае, што дзеля дакладнейшай інфармацыі нашых чытачоў, сярод іх і нашага сябра Т. Кірылава з Легніцы, прысылае нам... інфарматар, які ён атрымаў у часе канцэрта гэтага калектыву.

— Ну і малайцы ж, нашыя чытачы, верныя сябры „Нівы“! — усклікнуў я. — Чаго журналіст не зможа, тое яны дастануць, нават з-за мора...

І тут жа мы рашылі поўнасцю апублікаваць увесь вельмі цікавы артыкул Г. М. Загародняга з гэтага інфарматара, бо ў ім знаходзяцца ўсе асноўныя звесткі пра фенаменальныя „Харошкі“.

„Сярод сасновых лясоў і прыдняпроўскіх лугоў знаходзіцца невялікая беларуская вёска Харошкі. Здаўна яна славіцца вясёлымі песнямі і жартоўнымі гуллівымі танцамі. На адным з калгасных святаў у ёй пабывалі маладыя харэографы Валянціна Гаявая і Мікалай Дудчанка. Убачыўшы на свяце шэраг самабытных народных танцаў, яны адразу іх запісалі з непахісным намерам: абавязкова паставіць на прафесіянальнай сцэне.

Такая магчымасць энтузіястам народнага танца надарылася, калі В. Гаявой і М. Дудчанку даручылі стварыць маладзёжны танцавальны ансамбль Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Фальклорныя запісы, што былі зроблены ў вёсцы Харошкі, надта ж памаглі балетмайстрам: на іх падставе і нарадзілася першая канцэртная праграма ансамбля. Публіка адразу прыняла яе з вялікім адабрэннем. І быццам бы сама па сабе прыйшла назва новага творчага калектыву — „Харошкі“. Ансамбль складаецца з дзевяці танцавальных параў, невялікай інструментальнай групы, жаночага вакальнага квартэту „Купалінка“ — чулага інтэрпрэтатара лепшых твораў беларускага песеннага фальклору і саліст Міхал Пацук — выканаўца народных песень.

Абапіраючыся на музыкальна-танцавальныя традыцыі беларускага народа, мастацкі кіраўнік і галоўны балетмайстар ансамбля, заслужаная артыстка Беларускай ССР В. Гаявая імкнецца пры дапамозе сцэнічнай апрацоўкі дабыць з кожнага старадаўняга танца цяперашняе гучанне, уліць у яго свежы струмень сённяшняга жыцця з напружаным пульсуючым рытмам, хуткай зменай пачуццяў і настрояў. Праўдзівай народнасці ансамбля ў многім садзейнічаюць музыканты, кожны з якіх іграе на некалькіх інструментах, у тым ліку на старадаўніх беларускіх — гудку, цымбалах, ліры, басэтлі. Увядзенне ў танцавальныя партытуры гэ-

(Працяг на стар. 2)

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПА ЖАДАННЮ ПАКУПНІКОЎ

Амаль напалавіну абноўлены асартымент прадукцыі Гродзенскай швейнай фабрыкі. Улічваючы пажаданні пакупнікоў, прадпрыемства перайшло на выпуск верхняга жаночага адзення невялікімі партыямі, у кожнай з якіх выкарыстаны тканіны некалькіх колерамалюнкаў. Сярод навінак — камбінаваныя сукенкі прамога, паўпрылеглага сілуэтаў і іншыя папулярныя ў гэтым сезоне вырабы. Цяпер кожны пяты з іх адзначаны Знакам якасці.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**470 гадоў назад**
10.7.1509 нар. Ж. Кальвін, дзеяч Рэфармацыі. У 1533 адрокся ад каталіцкай царквы, стварыў першую абшчыну паслядоўнікаў сваіх ідэй.

**270 гадоў назад**
8.7.1709 адбылася Палтаўская бітва. Шведы страцілі 9234 чал. забітымі і больш за 18 тыс. палоннымі, рускія — 1345 чал. забітымі, 3290 параненымі. Пералом у Паўночнай вайне на карысць Расіі.

**190 гадоў назад**
14.7.1789 народныя масы Парыжа штурмам авалодалі каралеўскай турмой Бастыліяй. Гэта быў пачатак Вялікай французскай рэвалюцыі.

**90 гадоў назад**
14.7.1889 адкрыўся ў Парыжы Міжнародны сацыялістычны кангрэс, які ўстанавіў 1 мая Днём міжнароднай салідарнасці працоўных мас.

**85 гадоў назад**
13.7.1894 нар. І. Бабель, рускі пісьменнік. Майстар кароткай навелы.

**75 гадоў назад**
12.7.1904 нар. П. Нэруда (сапр. Рэес Басуальта), чылійскі паэт. Паэзіі Н. уласцівая глыбокая філасафічнасць і лірызм, спалучэнне наватарства паэт. формы з вернасцю нац. традыцыям.

* * * * * * * * * * *

*10.7.1909 пецярбургская „Ніва“, каментуючы „канцлерскі крызіс“ у Германіі, пісала: „Каб узбагаціць казну паўмільярдам марак, урад вымушаны быў выдумаць новыя падаткі, у чым і заключалася задача „фінансавай рэформы“ кн. Бюлава. Паколькі з бедных бярэцца ўжо амаль усё, што можна ўзяць, то новыя падаткі павінны былі легчы ў асноўным на больш багатыя класы насельніцтва. Галоўную ролю іграе сярод іх падатак на спадчыну. Пры абмеркаванні ў рэйхстагу ён сустрэў непрымірымую апазіцыю з боку магутнай партыі аграрыяў і кансерватараў і быў адхілены большасцю 8-мі галасоў; патрыёты гатовы ахвяраваць для айчыны крошю народа, але не сваімі ўласнымі кашалькамі і даходамі. Іх аратары даказвалі, што яны выступаюць у абарону святых прынцыпаў уласнасці, — быццам імперскі канцлер раптам ператварыўся ў анархіста ці сацыял-дэмакрата, — але прынцыпы і высокія словы ў іх вуснах павінны былі служыць толькі прыкрыццём палітычных інтарэсаў“.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1206. Nakład 6400 egz. S-2





**ЦЯПЕРАШНІ МІНСК**
*У гэтым кафэ з прыемнай назвай „Сняжынка“ можна паласавацца смакавітым марожаным.*
*Фота М. Гайдука.*

### ПОМНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Помнік экіпажу самалёта Героя Савецкага Саюза капітана Мікалая Гастэлы на шашы Мінск-Вільнюс, якраз у тым месцы, дзе ён разам з штурманам А. Бурдзянюком, стралком Р. Скарабагатавым і радыстам А. Калініным 26 чэрвеня 1941 года накіравалі свой палаючы самалёт на скопішча варожых танкаў, аўтамашын, бензацыстэрнаў і ўзарваліся.

Фота М. Гайдука.



(Працяг са стар. 1)

## „ХАРОШКІ“

тых інструментаў, якія ўжо сталі музейнай рэдкасцю, стварае асаблівы тэмбравы каларыт і дазваляе больш яскрава выявіць фальклорны характар харэаграфічнага калектыву.

У канцэртнай праграме „Харошкаў“ шырока прадстаўлена багацце беларускага танцавальнага фальклору. Тут гуллівы вясёлы танец з вёскі Харошкі — „Гусарыкі“ і незвычайны па сваёй рытмічнай структуры „Крыжачок“, вясковая полька „Весялуха“ і паважная лірычная „Крутуха“, урачыстая „Тураўская легенда“ і гарадская полька „Каханачка“, абрадавая „Вясельная кампазіцыя“ і складзеная з трох частак танцавальная сюіта „Субота“.

З маладым запалам, шчырасцю пачуццяў і незвычайным тэмпераментам артысты выконваюць кожны нумар праграмы.

Вось што пісаў крытык дацкай газеты „Ланд ог фольк“ пасля аднаго з канцэртаў калектыву, калі „Харошкі“ выступалі ў кастрычніку 1976 года ў Даніі: „Гэта быў феерверк народных танцаў і песеннага мастацтва... Хоць ансамбль малады, але ён дасягнуў высокага выканаўчага і мастацкага ўзроўню. Шэсць танцавальных параў — гэта прыгожыя дзяўчаты і юнакі. Трынаццаты — маленькі чалавечак (саліст ансамбля, заслужаны артыст БССР Хведар Балабайка) з вялікім талентам. Яго майстэрства танца цудоўнае, а гумар настолькі далікатны і шляхетны, што міжволі ўспамінаеш вялікага Чапліна...“

„Харошкі“ паставілі першыя ўпэўненыя крокі ў мастацтве. Яны ўдала прадстаўлялі беларускую танцавальную культуру на Усесаюзных фестывалях і святах, у часе Дзён Савецкага Саюза ў Даніі, у паездках па Сірыі і Іярданіі. У выніку Усесаюзнага агляду-конкурсу прафесіянальных мастацкіх калектываў, які быў прысвечаны 60-годдзю Вялікага Кастрычніка, „Харошкі“ атрымалі званне лаўрэата і першую ўзнагароду.

Дзе б не давялося выступаць маладому ансамблю, яго самабытная творчасць знаходзіць жывы водгук мноства гледачоў. А гэта дае выканаўцам новыя сілы і творчае натхненне“.

Мне ж астаецца толькі ад імя ўсіх чытачоў „Нівы“ сардэчна падзякаваць сябру А. Лашуку з Англіі за такі дасканалы матэрыял!

**М. Гайдук**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Шчаслівы чалавек (Мікалай Красько з Пасечнікаў Вялікіх) ● Імя выдатнага педагога ● „Кляпа“ з „Бабай Еўкай“ не кляпнула ● Жывое жыццё (мінскія сустрэчы) ● Пра гурток „Траянда“ з Люблiна ● Вятрак у Белавежы ● У валілаўскім „Лесе“ ● Весткі з Дубіч Царкоўных, Сухавольцаў, Кнаразоў, Белавежы ● Што сніцца Кастусю з Аўстраліі ● Песня** „Złoty pierścionek".

## ШТО НОВАГА?

## Ворагі афганскай рэвалюцыі

Усё новыя факты раскрываюць сапраўднае аблічча контррэвалюцыі, якая пры падтрымцы рэакцыйных колаў Пакістана, Кітая і некаторых імперыялістычных краін метадамі тэрору і насілля спрабуе падарваць асновы народнага ладу ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Афганістан. Мясцовыя органы бяспекі ДРА знайшлі паблізу Кабула склад зброі, боепрыпасаў, падрыўной літаратуры. Былі канфіскаваны аўтаматы, вінтоўкі, пісталеты, гранаты, выбуховыя рэчывы амерыканскай, кітайскай і пакістанскай вытворчасці.

Гэты склад — толькі невялікая частка зброі, знойдзенай у тайніках або забранай у разгромленых банд. Метады і прыёмы, якія ўжываюць контррэвалюцыйныя элементы, застаюцца ранейшымі. Пасля праходжання спецыяльнай падрыхтоўкі пад кіраўніцтвам пакістанскіх, кітайскіх і амерыканскіх інструктараў узброеныя банды перакідваюцца ў Афганістан, тэрарызуюць мірнае насельніцтва.

Афганскі народ абураны дзеяннямі сіл рэакцыі. Працоўныя краіны поўныя рашучасці абараніць сваю радзіму ад замаху ўнутраных і знешніх ворагаў, адстаяць свабоду і незалежнасць маладой рэспублікі.

Засылка банд тэрарыстаў на афганскую тэрыторыю суправаджаецца шырокай прапагандысцкай кампаніяй, развязанай рэакцыйнымі коламі. Заходняя буржуазная прэса, выступаючы з нападкамі на народны ўрад Афганістана, пралівае пры гэтым кракадзілавыя слёзы з прычыны актаў справядлівай адплаты ў адносінах да ворагаў афганскага народа.

У аўтарытэтных афганскіх колах звяртаюць увагу на тое, што ў гэтай зламыснай кампаніі, як ні дзіўна, прымае ўдзел і іранская прэса. Між тым добра вядома, што ў тым жа Іране ў перыяд рэвалюцыі ліквідавана нямала ворагаў, таму што рэвалюцыя вымушана абараняцца. Рэвалюцыйныя ўлады імкнуцца абясшкодзіць сваіх ворагаў, якія спрабуюць задушыць рэвалюцыю.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 6 VII** — 8.40 Film fab. 15.25 Koncert 15.50 Szachy. 19.10 Film fab. 20.35 Film dok. 22.15 Koncert.

**Sobota 7 VII** — 8.05 Koncert. 9.20 Film fab. 17.00 Piłka nożna („Spartak" — CSKA). 18.55 Film fab. 21.30 Mistrzostwa świata w gimnast. art.

**Niedziela 8 VII** — 8.05 Koncert. 10.00 Film dok. 10.50 Film anim. 12.30 Spektakl. 17.45 Film anim. 18.45 Humor i satyra. 20.35 Mistrzostwa świata w gimn. art.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Odnaleziona — rum. 10—11. Koziorożec — USA 12—13. Rozumiemy się bez słów — czes. 14—15.

**Bielsk Podl.** Do krwi ostatniej — pol. 9—10. Zagubiona dusza — wł. 11—12. Pustynia Tatarów — wł.-fr. 13—14. Diabli mnie biorą — fr. 15—16.

**Czeremcha** Narodziny gwiazdy — USA 10—11. Pasja — fr. 14—15.

**Czyże** Rocky — USA. Jego pierwsza miłość — pol. 11—15.

**Gródek** Przez góry skaliste — USA 14—15.

**Hajnówka** Śmierć z komputera — fr. 9—10. Opatrzność — fr. 11—13. Pogrzeb świerszcza — pol. 14—15.

**Michałowo** Bitwa o Midway — USA 10—11. Inny mężczyzna inna szansa — fr. 12—13. Hallo szpicbródka — pol. 14—15.

**Mielnik** Każdy umiera w samotności — RFN 11. Zaginęła dziewczyna — czes. 14—15.

**Milejczyce** Przełomy Missauri — USA. Bilet powrotny — pol. 11—15.

**Narew** Partita na instrument drewniany — pol. Zagubione dusze — wł. 11—15.

**Narewka** Siedem piegów — NRD. Komisarz w spódnicy — fr. 11—15.

**Nurzec** Bułeczka — pol. 10—11. Wypij do dna — radz. 12—13. Kiedy dojrzewa jagoda — jug. 14—15.

**Orla** Wszyscy i nikt — pol. Ostatni raz — czes. 11—15.

**Rajsk** Maratończyk — USA. Próba ognia i wody — pol. 11—15.

УСПАМІНЫ (27)

# Ніна Мушынская
# Заручаныя з песняй

## У БАЛЬНІЦЫ

Цэнтральны агляд драматычных гурткоў БГКТ зноў адбыўся ў Бельску. Ізноў выступалі мы перад пустымі крэсламі. Каб хоць склад камісіі быў большы. Каб нейкія балельшчыкі. Хай нават свісталі б. А то ніц. Камісія паціхеньку нешта натавала, а ў зале — мёртвая ціішыня (пустая зала). Каму і якую карысць такі агляд дае? Што прапагандуе?

На мой погляд, усе ўдзельнічаючыя ў аглядзе калектывы былі добра падрыхтаваныя. Было што паглядзець.

З узнагародамі за кіраўніцтва і добра выкананую ролю вярталася дамоў незадаволеная.

Расхварэлася я зусім і 2 мая апынулася ў бальніцы. Дыягназ быў, але з увагі на выключна рэдкае захворванне былі цяжкасці з дастасаваннем лякарстваў. Было ў мяне запаленне скроневых сасудаў. Праляжала дзесяць тыдняў у бальніцы.

Калі пасля ўколу боль праходзіў, думала аб Гарадку. Што там? Куды выязджаюць? З якім поспехам? А выязджалі: у Сямяцічы на агляд фальклору, у Белавеж на мітынг дружбы, у Гданьск на канферэнцыю БГКТ. Перад выездам у Гданьск наведалі мяне ў бальніцы старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік з культурным інспектарам Люсяй Васілюк. Былі ўпэўнены, што здароўе маё папаравілася і я вазьму ўдзел у канферэнцыі. За наведанне была ўдзячная, але адначасова адчула боль, што не змагу паехаць, што вымушана ляжаць. Аб працы калектыву інфармавала мяне Ніна Цыванюк, яна наведвала мяне часта. Наведваў таксама наш музычны інструктар Сцяпан Копа.

Ляжала я ў клінічнай бальніцы ў Беластоку. Проста цудоўна апекаваўся мною доктар Ежы Саросек. І таму хвароба не дакучала так моцна, як спачатку. Занялася творчасцю. Напісала верш-сцэнку. Хацела ў ім адлюстраваць сход гуртка вясковых гаспадынь. Ці гэта мне ўдалося, ацаніце самі:

**Старшыня сходу:**

Сход, сяброўкі, сёння важны.<br>
У парадку дня стаіць:<br>
Што пачаць, у які спосаб<br>
Мужыкоў перарабіць?

Па рабоце, як той заяц,<br>
Кожны з хаты уцякае.<br>
Розніца, што не ў хмызняк,<br>
А ў гасподу ўскок імчаць.

**I актывістка**

Праўду кажаш, старшыня,<br>
Мне з маім жыцця няма.<br>
Толькі ведае адно:<br>
Паўлітроўку ды віно.

У хаце яму не сядзіцца<br>
І гарэлка толькі сніцца.<br>
Як рак, па вуліцы паўзе,<br>
У хату часам не пападзе.

**II актывістка**

Мой мужык, як тая ляля,<br>
У гасподу не лятае.<br>
Памагае мне рабіць,<br>
Або дзетачак глядзіць.

Завядзе адно ў дзетсад,<br>
Другое паложыць спаць,<br>
Пазмывае, прыбярэ,<br>
Мужыкоў не разбярэш.

**III актывістка**

Эх, дурніца ты, хвалько,<br>
З такім мужам не жыццё.<br>
Лодар ён і дармаед,<br>
Мяла, а не чалавек.

**IV актывістка**

Сам жа ён не зарабляе,<br>
Тваіх грошыкаў чакае.<br>
А ты дасі злотых пяць —<br>
Дзе ж яму піць і гуляць?

**V актывістка**

А ці ж ты не гаварыла:<br>
„З-пад маіх не выйдзе крылаў.<br>
Куфаль піва хлябане,<br>
Дык качалкай па спіне".

**VI актывістка**

То й сядзіць, як ў дзірцы мыш,<br>
Абліжацца ды маўчыць.<br>
Дурань ён. Ды што рабіць?<br>
Як у бубен, у яго бі.

**VII актывістка**

Мой мужык, ведаюць ўсе,<br>
Што заробіць — прынясе.<br>
А як вып'е водкі чарку,<br>
Да кахання тады шпаркі.

Хоць суседкі з нас смяюцца,<br>
Слёзы мне з вачэй не льюцца.<br>
Не дарма кажуць: шторок<br>
У мяне новы прарок.

**VIII актывістка**

Трэба, бабачкі, прызнацца,<br>
Без мужа цяжка астацца,<br>
Гора, сум і языкі<br>
Не даюць заснуць уначы.

**Старшыня сходу**

Вывад, як ты не круці:<br>
Чыстай вады не муці.<br>
Ці ўдава ты, ці дзяўчо,<br>
Без мужчынаў — не жыццё.

Адразу і планавала, каму які куплет найбольш падыдзе. Я ж найстарэйшая ў калектыве не толькі гадамі. Добра ведаю псіхіку сваіх сябровак. Ведаю, якая і што любіць, у якім напрамку мае схільнасці.

У другой палавіне чэрвеня вярнулася я дамоў. На першую рэпетыцыю пайшла перш за ўсё таму, што 14 ліпеня мела прыехаць у Гарадок тэлевізійная брыгада. Ездзіла яна па ўсёй гміне, вылаўлівала ўсё, што было варта ўвагі. Наш калектыў мелі зняць над рэчкай Супраслю. І мелі спяваць мы: „Cicho jest nad rzeczką, gdy zajdzie słoneczko". Атмасферныя ўмовы змянілі план. Але калектыў у тэлевізіі быў. І песня была. Усе гэтыя захады рабіліся дзеля ўрачыстасці, якая мела адбыцца ў Гарадку 17 ліпеня: уручэння нашай гміне Крыжа Грунвальда II класа.

# У Старым Корніне

(Працяг са стар. 1)

стваў, а на дадатак такое жаданне праявіў кіраўнічы актыў гэтай жа гміны, які і падказаў нам, каб на месца фэсту выбраць вялікую і багатую вёску Стары Корнін.

— Чым заслужылася ў вашай гміне гэта вёска? — звярнуўся я да начальніка Дубіцкай гміны Мікалая Чыквіна.

— Стары Корнін, — адказаў мне ён, — у мінулым годзе заваяваў у нашай гміне першае месца ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная". Тут людзі праяўляюць сваю актыўнасць у многіх галінах. Такія спецыялісты па жывёлагадоўлі, як Аляксандр Германовіч, ратуюць гонар сельскай гаспадаркі ўсёй Беласточчыны. Памятаць таксама трэба і пра тутэйшую спулдзельню прадукцыйную, якая ў шырокім маштабе разгарнула адкорм свіней і вырошчванне куранят, а яе высокатаварная прадукцыя дазваляе ўжо некалькі гадоў па чарзе вызначаць аплату за адзін умоўны працадзень у межах 200 зл. У мінулым годзе ў Старым Корніне была створана і паспяхова дзейнічае вакальная група з шасці жанчын.

— А што чуваць у іншых вёсках вашай гміны, — спытаў я, — чым яны сустракаюць юбілей нашай краіны?

— Як вам коратка адказаць на гэтае пытанне? — задумаўся Мікалай Чыквін. — Я тутэйшы, з Дубічаў Царкоўных, ды ўжо 20 гадоў працую тут на кіраўнічых пасадах і часта мне самому проста не хочацца верыць, што так многа перамен здзейснілася ў гэтай гміне на маіх вачах. Нашы сяляне на працягу нейкіх 20 гадоў ад сярпа і касы перайшлі да снопавязалак і камбайнаў, а з каня пераселі на трактар. Асабліва вялікі, паскораны тэмп развіцця наглядаецца ў апошнія гады. Для прыкладу, гадоўля свіней і кароў павялічылася ў нас амаль у два разы. Памятаю, што калісьці дзве даўнейшыя грамады —Дубічы Царкоўныя і Стары Корнін, якія ў асноўным і састаўляюць цяперашнюю Дубіцкую гміну, пастаўлялі дзяржаве тон 300 мяса, а зараз тутэйшыя сяляне прадаюць яго каля тысячы тон. Дастаткова голым вокам паглядзець на нашы вёскі. Колькі ў іх новых, пераважна мураваных дамоў, як упрыгожаны платы, якія найчасцей будуюць з дэфіцытнага жалеза, як загаспадараны панадворкі, як абсталяваны хлявы і аборы, якая мэбля ў вясковых хатах! Маем у гміне 50 гаспадароў — спецыялістаў у розных галінах сельскай гаспадаркі. Найбольш у жывёлагадоўлі. Для прыкладу, Катушэўскі з Грабаўца, Несцярук з Чэхаў, Герасімюк або Назарук з Ягаднікаў, сям'я Карчоў з Тафілаўцаў... Яны даказваюць і сабе і сваім суседзям уласным вопытам, чаго можна дабіцца цяпер на гаспадарцы, хаця, праўду кажучы, — уздыхнуў начальнік, — не так ужо і лёгка даводзіцца гаспадарыць нашым сялянам на тутэйшых пясчаных палях, дзе найбольш глебы V і VI класаў.

Аб'явілі пачатак афіцыйнай часткі навакорнінскага фэсту, і начальнік паспяшыў на эстраду, падрыхтаваную з 4 трактарных прычэпаў. Там ужо чакалі: старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік і сакратар гміннага камітэта партыі Мікалай Цімафеюк. Яны абодва выступілі з дакладамі.



*Выступаюць жанчыны са Старога Корніна.*

А пасля на эстрадзе паявіўся калектыў са Старога Ляўкова. Янка Крупа, працаўнік Галоўнага праўлення БГКТ, з уласцівым яму пачуццём гумару аб'явіў, што Старое Ляўкова прыехала з гмінай Нараўкай, каб паспяваць Старому Корніну ў гміне Дубічы Царкоўныя.

— Не так ужо і лёгка было мне сёння, — гаварыла мне крыху пазней Ніна Сікорская, — падгаварыць маіх спевакоў, каб паехалі ў Стары Корнін. То ж цяпер якраз сенакос, кожная хвіліна — быццам золата, а мужы і без таго не хочуць пускаць на канцэрты сваіх жонак... Аднак выступалі мы з вялікім задавальненнем. Не шкадуем, што прыехалі.

Ніна Сікорская працуе ў адміністрацыі керамічнага прадпрыемства ў Старым Ляўкове і з'яўляецца галоўным арганізатарам хору з гэтай вёскі.

Калектыў са Старога Ляўкова падмянілі мясцовыя спявачкі, шэсць жанчын: Марыся Місеюк, Марыся Сявесюк, Оля Герасімюк, Ніна Назарук, Зося Кулік і Ліда Барвюк. Назваў я іх усіх тут нездарма. Яны самі, без ніякай музычнай дапамогі звонку, па-геройску прабіваюцца на эстрады мастацкай самадзейнасці. Падабралі сабе старынныя мясцовыя песні і выконваюць іх так, як спявалі іх прабабкі на вечарынках. Спяваюць ахвотна, ад душы, ды яшчэ заяўляюць, што хацелі б ездзіць па іншых вёсках, каб толькі хто-колеч іх паклікаў і даў транспарт.

І так працягваўся гэты фэст. Яшчэ не закончыўся канцэрт самадзейнасці, яшчэ Янка Крупа весяліў людзей старымі, але смешнымі анекдотамі, яшчэ выступаў Аляксандр Раманюк з Дубяжына, а ўжо мясцовыя спартсмены-футбалісты выбеглі на спартыўную пляцоўку, каб разыграць свой матч. Ля буфетаў з напіткамі безупынку таўпіліся людзі, каб купіць аранжаду, піва ці нешта і мацнейшае, нехта прадаваў цукровую вату, дзейнічаў спартыўны цір, дзе сабраліся жадаючыя пастраляць у цэль.

А вечарам... вечарам моладзь танцавала, старэйшыя таксама прабавалі сваіх магчымасцей у моцных дыскатэкавых танцах. Вёска доўга не спала — як гэта звычайна бывае ў святочны дзень.

**Віктар Рудчык**<br>
Фота аўтара



*Яшчэ не закончыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, а ўжо распачаўся футбольны матч.*

# ПРЫРОДА І МЫ

## ДРЭЎЦЫ, ДРЭЎЦЫ...

Колькі разоў ужо „Ніва“ публікавала матэрыялы аб пасадцы дрэўцаў. Што ў адной гміне столькі-та пасадзілі дрэўцаў, а ў другой столькі.

Прывезлі гэтых дрэўцаў і да нас у Кнаразы. Прывезлі таполі і бярозкі. Але прывезлі тады, калі не трэба, бо прывезлі, як было ўжо паўлістка на іх. Што ж? Людзі разабралі ды пасадзілі іх. Але колькі дзе я бачыў, яны ўсе засыхаюць. Няўжо людзі ад пасадкі не ведаюць, што дрэўцы садзіць трэба, калі на іх няма лісткоў? А такім спосабам вось, як у Кнаразах зрабілі, дык проста змарнавалі шмат прыгожых саджанцаў

**М. Кірылюк**

## З МАЛАДЫХ ГОД

Восьмы дзесятак дажываю, а пра гады маладосці забыць не магу. Калісьці, бывала, як прыдуць майскія вечары, дзяўчаты і хлопцы амаль кожны вечар збіраюцца дзесьці на панадворку і спяваюць да поўначы, а то і яшчэ даўжэй. А рэха нясе гэтыя песні па ўсёй ваколіцы. Да таго ж сяло Завыкі стаіць уздоўж ракі Нарвы, дык усю ноч, бывала, не змаўкаюць галасы розных рачных птушак. А пры адным канцы сяла растуць альшынавыя зараснікі, дык там усю ноч салаўі пераліваліся рознымі галасамі. Так чалавек сядзеў бы на панадворку цэлую ноч і спаць не хацелася. На світанні пачыналі свой канцэрт жаваранкі.

А што ж робіцца ў цяперашнія майскія вечары? Моладзі — і голасу не пачуеш, акрамя таго, што дзе-які п'яніца зараве. А птушкі не пачуеш — ні рачной, ні лясной. Часам толькі, калі пачнуць даспяваць вішні, то тады не адагнацца ад шпакоў, а калі паблізу сяла пачне даспяваць пшаніца або ячмень, тады вераб'і злятаюцца.

**Незнаёмы**

## ПРА ЗЯЗЮЛЮ І ЖАВАРАНКА

„Бодай, зазулю, бодай сывая  
на ліето нэ ковала,  
Як выковала мого батэнька, а я  
сыротою стала...“

Так пачынаецца адна з агулек, якія спяваюць дзяўчаты ў маёй роднай вёсцы Грабавец. Не, лепш будзе сказаць — спявалі дзяўчаты калісьці, бо, на жаль, цяпер у вёсцы не гучаць веснавыя песні. Гэтыя, раз сумныя, раз задзёрныя, а заўсёды прыгожыя напевы адышлі кудысьці ў мінулае.

З зязюляй мой народ звязаў многа прызнакаў, надзей, весялосці, суму, а нават шчасця і няшчасця. Людзі верылі, і мо дагэтуль вераць, што зязюля, загадкавая птушка, можа не толькі адгадаць, але вызначыць колькасць год жыцця кожнаму чалавеку. Таксама людзі вераць, што павінны мець пры сабе грошы, калі першы раз вясною пачуюць кукаванне зязюлі. Гэта тады абазначае, што год будзе багаты. Калі грошай няма пры сабе, значыць год будзе бедны. Некаторыя баяцца зязюлі. Вось словы агулькі, прыведзенай вышэй, гавораць аб тым, што кожную вясну зязюля кукавала ў садзе і „выковала“, значыць прысудзіла, бацьку смерць, а дзяўчына засталася сіратою. Цяпер ёй цяжка жыць на свеце. Затое і гаворыцца: „Бодай, зазулю, бодай сывая, на ліето нэ ковала...“ Або, калі ходзяць па лесе ці па гаі і пачуюць зязюлю, гавораць: „Зазуля — пэрэгоруля, скажы мніе правдоньку віерноньку, куолько я ліет буду жыты?“ Калі зязюля кукае доўга, лічаць яе „ку-ку“ і цешацца, што жыццё будзе доўгае. Адно „ку-ку“ — адзін год. І сум агортвае пытаючую, калі птушка закукуе пару разоў і змоўкне.

Я асабіста не ведаю, ці ўсё гэта праўда, ці не, але вельмі люблю слухаць прыгожы голас зязюлі, калі разліваецца ён па лесе, у гаі, ці ў садочку. Шкада толькі, што ўсё менш іх ёсць у нашай прыродзе, асабліва вакол гарадоў і прамысловых цэнтраў. Часцей яшчэ могуць слухаць іх жыхары вёсак, але і там штораз іх менш.

З сумам у сэрцы прачытаў я заметку М. Аўсейчука пад загалоўкам „Куды падзеліся жаваранкі?“, надрукаваную ў 23 нумары „Нівы“. Які ж жаль, што ўжо нават селяніну рэдка даводзіцца, або і ўвогуле не даводзіцца паслухаць песню жаваранку, які бытуе на прасторах палёў. Бывала, узлятае па вертыкалі аж пад неба і заліваецца песняй. Позірк наш ужо не можа дасягнуць яго, а песня жамчужная льецца проста ў нашу душу і ўлівае жыццё ў змучаныя грудзі.

Жаваранак — шэрая, быццам верабей, маленькая птушка, а колькі прыносіць радасці нашым хворым нервам і як спрыяе псіхічнаму адпачынку. Той не ведае аб лячэбным бальзаме птушынага спеву, хто ніколі над гэтым не задумаўся. Наша цывілізацыя, механізацыя палёў вядзе нас да багацця (да абжорства), але як жа збядняе душэўнае жыццё! Цяпер людзі ўвайшлі ў век копаці ад самаходаў і дэцыбелаў, распіраючых галаву візгам, квікам, ды верашчаннем, быццам у аганальных мучэннях. І думаюць, што ў гэтым заключаецца іх дабрабыт і культура. Быццам не ведаюць, што здароўем з'яўляецца чыстае паветра, чыстая вада і лясы, напоўненыя спевам птушак. Дзеля выгады перапоўненых жыватоў наша пакаленне забывае аб сапраўдным здароўі і наогул не думае аб будучым пакаленні, якое прыдзе пасля нас, ды так, як і мы, захоча паслухаць песні жаваранка. Здаецца мне, мы ім гэтай прыемнасці не пакінем.

Я вялікі кусок жыцця свайго быў галодны. А цяпер згаджаюся жыць у прыгаладзе, але не забірайце мне спеву птушак! Без іх жыццё не мае сэнсу, а свет становіцца пустыняй, усеянай высокімі корпусамі шэрых дамоў, якія даюць сховішча, але не даюць радасці.

**Васіль Петручук**



*Летам на рацэ.* *Фота Я. Целушэцкага.*

прыгнётам асабліва ярка праявілася ў Вілюках у часе гітлераўскай акупацыі. Гэтую вёску фашысты не знішчылі, і яна стала самай надзейнай падпорай для партызанскіх атрадаў, што дзейнічалі ў Белавежскай пушчы. Тут яны атрымоўвалі ежу, вопратку, зброю, весткі пра фашыстаў. А жыццё вілюкоўцаў не адзін раз вісела на валаску, бо, бывала, па хатах немцы шнырацъ, а партызаны за клунямі сядзяць! Асабліва ж многа для партызанаў рабіў **Іван Саевіч.** Да вайны ён служыў у Польскім ваенным флоце. У вядомага хірурга Шопы ў ваеннай бальніцы ў Гдыні-Аксівіі прывучыўся даглядаць раны і складаць паламаныя косці. Надта хутка і спраўна авалодаў гэтым уменнем і нават асіставаў Шопу пры аперацыях. Потым І. Саевіч ратаваў жыццё дзесяткам параненых партызанаў. Ён прыгадвае, як зімою 1943/44 года ў партызанскіх зямлянках ва ўрочышчы Озэрэц, у 558 квартале пушчы, знаходзілася каля 30 параненых партызанаў. Яго папрасілі дапамагчы ратаваць іх. І. Саевіч праз знаёмых з Кляшчэляў, Орлі, Бельска рознымі спосабамі даставаў з аптэкаў медыкаменты і па пояс у ледзяной вадзе, руслом рэчкі Пэрэбэлі, каб не пакідаць слядоў, дабіраўся да партызанскіх зямлянак, даглядаў параненых, складаў патрушчаныя ногі, рукі, рэбры. Такім чынам вылечыў ён некалькі дзесяткаў чалавек. Яны потым зноў пайшлі ў партызанскія атрады змагацца супраць фашыстаў. Дапамагалі партызанам і іншыя жыхары Вілюкоў.

Вызваленне ў ліпені 1944 года для Вілюкоў зусім не абазначала мірнага жыцця, бо разам з тым, як адыйшлі часці Савецкай Арміі з лініяй фронту на захад, у Белавежскай пушчы паявіліся банды рэакцыйнага падполля. Яны грабілі насельніцтва, забівалі членаў ППР, грамадскіх дзеячоў. А капітуляцыю гітлераўскай Германіі „адзначылі“ тым, што ўначы 10 мая 1945 года сагналі ўсю вёску ў адно месца, расстралялі былога партызанскага сувязнога Васіля Германюка з суседняга сяла Доўгі Брод, падпалілі ўсе будынкі і трымалі пад дуламі аўтаматаў людзей да таго часу, пакуль ад Вілюкоў асталася горба попелу.

З бегам часу дзякуючы самаахвярнасці і працавітасці людзей вёска адрадзілася, адбудавалася, стала нават прыгажэйшай, чым да вайны. Цяпер яна — утульны і гасцінны куточак нашай Беласточчыны.

**М. Гайдук**  
Фота аўтара

## М. ШАХОВІЧ
## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**Віткі** — тая частка снапа, дзе знаходзяцца каласы. Снопуоў нэ кладі, а стаў віткамі догорыэ, то хучыэй зярко высохнэ. Нэ ході по вітках, жыто ж обіваеш.

**Выскробанэць** — булачка, зробленая з рэшты сабранага з дзяжы хлебнага цеста. Хоч выскробанэць в кішэню возьмі, а то ж голодны ціэлы дэнь будэш. Хоч половіну выскробанця?

**Набілкі** — частка красён. Гэта драўляная рама, трымаючая берда. Муцніэй набілкамі бі. Поладь набілкі, бо злетіэлі.

**Наворашнік** — шкло да газавай лямпы. Оно помалу наворашнік знімай, гледі, коб нэ побіў. Нэ доткніcь хоть рукою до наворашніка, бо жэжкі.

**Папрыца** — адпаведна пазагінаныя дроцікі ў серах калаўротка. Дапамагалі яны навіваць нітку на шпулю. Нэ пхай рук у сіэры, а то злапае папрыцою і покаліэчыт. Ужэ містямі папрыца з сіэруў повылітала.

**Рэйтка** — адпаведная дошчачка з дзіркамі, праз якія праходзіла нітка пры снаванні. Дэ ты рэйтку закінула? Позыч рэйткі, а то сноваті нэма як.

*(Новаберазова, гміна Гайнаўка.)*

## Беларуская літаратура

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXXVIII

Пахвала працы як бы ўтрымана ў духу вернасці Коласа пазітывістычным ідэалам. Аднак трэба сумнявацца, ці Колас, пішучы „Новую зямлю“, кіраваўся якімі-колечы літаратурнымі праграмамі. Можна думаць, што „Сымон-музыка“ быў дзіцём ідэй і праграм, але „Новую зямлю“ нарадзіла беларуская грамадская рэчаіснасць. І кожны яе радок у гэтай рэчаіснасці можа знайсці пацвярджэнне.

І, нягледзячы на ўсё, можам гаварыць аб сугучнасці „Новай зямлі“ з ідэямі польскага пазітывізму. Сугучнасць гэта праяўляецца не толькі ў падыходзе да працы, у пахвале ладу і парадку ў сялянскай сялібе і сям'і, але і ў адабральных адносінах да сялянскай асветы.

Нягледзячы на тое, што героі паэмы Міхал і Антось ледзь пісьменныя, здаюць яны поўнасцю справу з важнасці асветы. Адсюль і плыве іх энергія ў галіне навучання дзяцей. І Міхал і Антось перакананы, што асвета можа карэнным чынам змяніць жыццё маладога пакалення.

Галоўнай ідэяй паэмы „Новая зямля“ з'яўляецца думка герояў аб уласнай зямлі. Хваравітая любоў беларускага селяніна да ўласнага куска зямлі была заўважана многімі даследчыкамі. Даследчык Піотуховіч гаворыць аб ёй наступнае:

„Поскольку белорусский народ в своей массе является народом земледельческим, в обрядовой поэзии его на первый план особенно ярко выступает власть земли“.

У паэме прысутнічае нявыказанае перакананне аўтара ў тым, што прывязанасць селяніна да айчыны будзе гарантавана тады, калі селянін будзе кусочак айчыны мець на ўласнасць у форме ўласнай гаспадаркі.

Логіка мышлення і ўчынкаў Міхала вельмі простая. Зводзіцца яна да таго, каб зарабіць грошы ў пануючых, купіць уласную гаспадарку і ўвольніцца ад пануючых.

*І тут першы раз Міхала*  
*Вось гэта думка напаткала:*  
*Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,*  
*Каб з панскіх выпутацца пут*  
*І там зажыць сабе нанова:*  
*Свая зямля — вось што аснова.*

Думка аб уласнай гаспадарцы паўтараецца ў паэме сотні разоў як прыпеў, як лейтматыў, як малітва, як запаветная песня сялянскіх мараў.

Зямля — краіна ілюзійнага шчасця ў перакананні герояў з'яўляецца сінонімам дабра, альтруізму, незалежнасці, дастатку. Пранікае яна ў істоту думак, мараў і падзей. Становіцца свайго роду веравызнаннем герояў.

*Зямля не зменіць і не здрадзіць,*  
*Зямля паможа і дарадзіць,*  
*Зямля дасць волі і дасць сілы,*  
*Зямля паслужыць да магілы,*  
*Зямля дзяцей сваіх не кіне,*  
*Зямля — аснова ўсёй айчыне.*

## ФАЛЬКЛОР

### БЯСЕДНАЯ




*Ой, гук жа там гук, дзе дзеванькі п'ют,*  
*вымацёная тая гулічэнька,*  
*куды ваны ідут.*  
*Вымацёная тая гулічэнька,*  
*куды ваны ідут.*  
*Дзерном зарасла, лісцем запала,*  
*да й калінаю, да й чырвонаю*  
*пазавісала.*  
*Да й калінаю, да й чырвонаю*  
*пазавісала.*  
*Як я захачу, дзерно падапчу,*  
*да й калінаньку, да й чырвоную*  
*у пуч'е павежу.*  
*Да й калінаньку, да й чырвоную*  
*у пуч'е павежу.*  
*У пуч'е павежу — на рынок панісу*  
*за калінаньку, за чырвоную*  
*грошыкаў зараблю.*  
*За калінаньку, за чырвоную*  
*грошыкаў зараблю.*

Ад Марыі Янюк, 1908 года нараджэння, мястэчка Нараўка, запісаў 24 студзеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сельскагаспадарчая спецыялізацыя

Адным з асноўных напрамкаў дзейнасці сельскай гаспадаркі ў Чаромхаўскай гміне з'яўляецца спецыялізацыя. Дагэтуль працуе тут 11 спецыялістычных калектываў. Да канца года будзе створана яшчэ 7 і, такім чынам, у наступным годзе пачне працу ўжо 18 спецыялістычных гаспадарак.

Асноўны напрамак працы калектываў — гадоўля ўбойнай і малочнай жывёлы і вырошчванне сельскагаспадарчых культур. Дагэтуль найлепш працуюць калектывы Васіля Астапковіча з Чаромхі-станцыі і Міхася Смыка з Ставішчаў. Яны за 1978 год перавысілі нормы, указаныя картай спецыялістычнай гаспадаркі. **(ус)**

## ДАЙЦЕ КАМІТЭТ!

Адчуваецца, што праўленне ГС у Нараўцы крыху забывае пра сваю краму ў вёсцы Плянта. Вось хоць бы ўзяць прыклад членскага камітэта ў гэтай краме. Мо каму будзе здавацца гэтая справа менш важнай, чым іншыя, а ўсё ж гэта орган, які выбіраецца для кантролю над крамай.

На агульным сходзе ў святліцы ПКП ужо будзе год часу, як быў створаны такі членскі камітэт, але дагэтуль ніхто ў праўленні ГС не падумаў, каб яго прадставіць у краме, для якой яго стварылі. Нават нідзе тут не відаць спіска членаў членскага камітэта крамы. Усе крамы такія спіскі маюць, а толькі ў Плянце няма. Забылі ці занядбалі?

**Пенсіянер**

## БАЛАГАН

Балаган пануе пры спажывецкіх крамах у Бельску, а ў асноўным там, дзе прадаецца піва. І так, новыя спажывецкія павільёны № 13 і № 7 заўсёды „акружаны" падвыпіўшымі людзьмі, найчасцей з пару бутэлькамі піва ў руках. Абслуга гэтых крамаў не звяртае ніякай увагі на гэта і не робіць ніякіх захадаў, каб ліквідаваць непарадак.

Варта падкрэсліць, што павільён № 13 пабудаваны пры турыстычным шляху Беласток-Белавежа, а павільён № 7 пры вакзале ПКП, на вуліцы 22 Ліпеня.

Варта, каб дырэкцыя ВСС „Сполэм" у Бельску і мясцовы санэпід пастараліся навесці парадак.

**Бяльчанін**

## „Гарадскія" гаспадаркі

У межах горада Гайнаўкі знаходзіцца каля 2000 гектараў зямельных угоддзяў. Сельскагаспадарчая служба горада стараецца, каб гэтыя землі не пуставалі, а прыносілі шчодры плён.

Для жыхароў горада трэба як найбольш гародніны. У сувязі з гэтым павялічыцца паверхня зямлі, на якой будуць вырошчвацца плёны пад шклом. Паверхня гэтая ўжо цяпер дасягае 5 100 кв. метраў. Пад фальгой знаходзіцца 4000 кв. метраў. Апрача гэтага 100 гектараў зямлі знаходзіцца ў прыхатніх агародчыках. З кожным годам жыхарам Гайнаўкі прыбывае гародніны, штораз здаравей ядуць яны.

**Э. Вайсковіч**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Сёння паведамляем аб трох трагічных выпадках з просьбай быць больш уважлівым на дарогах і на рэчках.

У поўдзень на хутары Сацы, гміны Нараў, падчас купання ў сажалцы ўтапіўся 15-гадовы хлопец з Бельска.

Таксама ў сярэдзіне дня на станцыі ў Нурцы поезд наехаў на чалавека, які ішоў па рэйках. Чалавек памёр на месцы.

У Саколцы ад „Ельча" адарваўся прычэп і ўехаў на тратуар, проста на групу людзей, якія ішлі насупраць, а потым у сцяну будынка. Дзве асобы былі забіты на месцы, а дзве, цяжка параненыя, знаходзяцца ў бальніцы.

### ТАКСАМА І АДПАЧЫНАК...

Рада прафсаюзаў Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці ў сваёй дзейнасці вялікую ўвагу звяртае таксама на адпачынак рабочых, разумна мяркуючы, што гэта садзейнічае лепшай прадукцыйнасці працы. У мінулым годзе з рабочых водпускаў карысталася 212 асоб.

Над ракой Нарвай у Рыбаках гайнаўскія прадпрыемствы пабудавалі ўласны цэнтр адпачынку. Свае домікі мае там і ГПДП. У мінулым годзе людзі ездзілі туды на адпачынак на суботу і нядзелю. Гэтая форма адпачынку вельмі папулярная сярод гайнаўскіх рабочых. Ездзяць цэлымі сем'ямі.

Вялікая ўвага прысвячаецца здароўю рабочых, якія патрабуюць санаторнага лячэння. 80 асоб пабывала за год у санаторыях краіны. Усе заявы на пабыўку ў санаторыях былі ўладжаны станоўча. Пра здароўе рабочых у ГПДП асабліва клапоціцца старшыня прафсаюзнай рады Пётр Ціванюк.

**Э. Вайсковіч**

### ЯШЧЭ РАЗ АБ КУРСАХ КВАЛІФІКАВАНАГА ГАСПАДАРА

У Дубічах Царкоўных закончыўся нядаўна курс кваліфікаванага гаспадара. Вучыліся на курсе ў асноўным сяляне ў сярэднім узросце з тэрыторыі Дубіцкай гміны. Экзамены здалі ўсе 43 асобы. Яны атрымалі атэстаты кваліфікаванага гаспадара.

Вучоба на курсе распачалася ў кастрычніку мінулага года. Падзяка належыцца гміннай школе ў Дубічах Царкоўных, якая таксама многа памагла дубіцкім гаспадарам у вучобе.

**М. Панфілюк**

## Меліярацыя прадаўжаецца

У мінулым годзе я пісаў пра меліярацыю ў Плёсках, а ў бягучым годзе прыйшла чарга на Кнаразы. Ужо капаюць роў на кнаразоўскіх палях ды пашах. Экскаватар капае, а за ім падвозяць бетонныя кругі на праезды.

**Міхал Кірылюк**

### ПЕРОН ВІТАЎСКАЙ СТАНЦЫІ

На станцыі ў Вітаве, як на дачы — кругом прыгожы вялікі лес. Прасторны (яшчэ царскі) геаметрычны будынак, у якім знаходзіцца білетная каса, яе вядзе ветлівая і бадзёрая касірша Ніна Яканюк. Усе пасажыры з наваколля яе вельмі паважаюць. І ўсё, здаецца, добра.

Аднак ёсць і недахопы. Напрыклад, перон на станцыі дрэнна зроблены. У ім стрaгнуць ногі, бо дрэнна насыпаны вельмі дробны будаўнічы жвір. Прайшоўшы па ім, ведай, што набярэш у боты гэтага чорнага пяску. Людзі наракаюць на чыгуначныя ўлады ў Гайнаўцы, што не такога, як трэба, жвіру сюды насыпалі. Прыдалося б, кажуць, палажыць нейкія пліткі. Тады станцыя Вітава была б зусім добрая, як дача.

**М. Панфілюк**

## Выйшла добрая дарога

Дарогу ў Відаве, якая ідзе на лугі, пачаў бельскі ПГР даводзіць да парадку. Прывезлі больш пяску, разгарнулі яго, машынай уцвердзілі. Дарога выглядае, як палітая асфальтам. Выйшла добрая дарога. Відаць, што інтэрвенцыя „Нівы" памагла.

**Румі**

## Несумленны шафёр

Вось прыклад на гэта. Чакаў я аднойчы ў сваёй вёсцы Дубічы Царкоўныя на аўтобусным прыпынку, каб заехаць у Гайнаўку (быў удзельнікам конкурсу беларускай літаратуры). На прыпынку апрача мяне нікога не было, бо іншыя пасажыры паехалі ранейшымі аўтобусамі, а я не спяшаўся, бо конкурс быў назначаны на 12 гадзіну. А быў гэта дзень 12 мая.

І вось аўтобус, які ідзе з Сямяціч у Гайнаўку, пунктуальна а 9.45 раніцы праляцеў каля Дубічаў, не спыніўшыся на прыпынку, і паляцеў далей. Не памагло і тое, што я пачаў махаць рукою, каб шафёр затрымаўся.

Да Гайнаўкі я дабраўся трактарам з мясцовага СКРу. І яшчэ паспеў застаць у Гайнаўцы на аўтобуснай станцыі той аўтобус, які не захацеў мяне ўзяць. Яго нумар AG 5631.

**М. Панфілюк**

Запіскі натураліста

## Гліна і гігіена вады

Жыватворная вада ў грунце ўтрымліваецца на гліне. Калодзежы, якія выкапаны ў глiністым грунце — без іхнагеалагічных пустот, маюць чыстую ваду. Тыя, што ў пясчаных — ваду забруджаную. Сюды цераз пласты пяску прасочваецца гразь з хлявоў. Вада будзе зеленаватая. Каб гэтага пазбегнуць, трэба калодзежы ў пясчаных грунтах абкладаць слоем гліны, бетанаваць. Гліна павінна мець таўшчыню 50 см, а глыбіню 150 см. Каля бетоннага круга абсыпаць пяском 20 см таўшчыні.

Калісьці ў сёлах нашых былі каля калодзежаў жураўлі. Яны, апрача механічнай выгады, захоўваюць чыстату вады. Ды і ўпрыгожваюць пейзаж сяла (мал. 1).

— Дзе ваш журавель? — спытаўся я ў Дарыі Міранюк з сяла Дзяніскі, гміны Бельск.

— Быў стары, згніў, новага не было каму паставіць. Дзеці разбегліся, пайшлі ў свет.

— Так яно ёсць... Шкада, што традыцыя жураўлёў замірае.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**




## НАША ПОШТА

**Ул. Сідарук, карэспандэнт.** „З нецярплівасцю чакаю кожнага новага нумара „Нівы". Чытаю амаль усё, пачаўшы ад сёмай старонкі, і хачу сказаць, што змянілася наша газета. Апрача выгляду (колер зрабіў сваё), таксама змест. Артыкулы журналістаў сталі цікавейшымі, матэрыялы карэспандэнтаў таксама". Аднак наш карэспандэнт падае прыклад памылкі ў подпісе пад здымкам аднаго з удзельнікаў агляду „Беларуская песня-79". Перапрашаем, памылку выяснілі.

**А. Лашук, Лондан.** „Звяртаюся з ветлівай просьбай: далучаны ліст з брашуркай пра калектыў „Харошкі" перашліце пану Т. Кірылаву ў Легніцу, паколькі я не маю яго адрасу. А каб не пакрыўдзіць і вас, дасылаю разам другую брашурку, каб больш даведаліся аб ансамблі, які выступае цяпер у Лондане ад 23 красавіка два разы ў дзень (а 14.00 і 17.00) у будынку, дзе адбываецца выстаўка СССР. Як бачыце з далучанай брашуркі, ансамбль з БССР — прафесійны.

Высылаю гэтае пісьмо пасля атрымання ўчора газеты „Ніва" нумар 21 (1213), у якім публікуецца ліст пана Т. Кірылава з пытаннем аб „Харошках". Змест яго лісту я даў прачытаць мастацкаму кіраўніку ансамбля і некаторым артыстам. Зраблю фатакопіі з газеты, каб даць кіраўніцтву ансамбля як водгукі аб іх ансамблі. Мы тут у захапленні ад бачанага, асабліва захапляемся танцамі, музыкай і беларускім аддзелам на выстаўцы. Каб не трэба было хадзіць на працу, наведвалі б мы выступленні ансамбля штодзённа. Шчырыя прывітанні ўсім супрацоўнікам газеты".

**Ад рэд.** Дзякуем нашаму чытачу за брашурку. Выкарысталі яе для публікацыі аб калектыве „Харошкі".

**Мікалай Базылюк, Штутова.** Звяртаецца з просьбай да рэдакцыі, каб мы сталі пасрэднікам у знаёмстве і наладжанні бліжэйшых сувязяў з нашым чытачом і карэспандэнтам Дзмітрам Слізенем з Калабжэга, матэрыял якога быў надрукаваны ў 22(1214) нумары „Нівы". Як піша наш чытач са Штутова, ён парушыў яго моцна. Абодва нашы чытачы жывуць на ўзбярэжжы Балтыйскага мора.

Мы з вялікай прыемнасцю выслалі нашаму калабжэгскаму чытачу вашу паштоўку. Вельмі цешымся, калі нашы людзі дружаць!

**Эдвард Шчасновіч, Шчасновічы.** „Дарагая „Ніва", ужо я не пісаў да вас цэлы месяц, бо выслаў пару артыкулаў, а ад вас ні адказу, ні прыказу. Памеркаваў, што ўжо мая галава не варыць, ды тэма маіх артыкулаў не падыходзіць вам, дык няма чаго і грайзмоліць. Але ў нумары 23 ад 10 чэрвеня паявіўся мой „певеньчык", што выслаў я ў красавіку. Так што можа ізноў што-небудзь напішу, бо ў гэтым годзе канчаецца мой пяцігадовы стаж карэспандэнта „Нівы". Не варта падкачаць".

А наша сэрца аж скача ад радасці, калі вы што-небудзь „нагрызмоліце" нам. Толькі чаму так рэдка? Лічым, што губіце на дарозе жыцця свой талент. Пачніце з верай і надзеяй свой наступны юбілей супрацоўніцтва з „Нівай". Забараняем вам падкачваць! Вы ж ведаеце, бывае часам, што матэрыял крыху і паляжыць. Значыць, загад вам: пішыце!

**Тамаш Кірылаў, Легніца.** „Я атрымаў сёння ліст ад майго знаёмага з Чыкага. Піша, што рэгулярна атрымлівае „Ніву" і вельмі палюбіў яе. Хваліць таксама мае артыкулы ў „Нашай пошце". Як бачыце, цэняць нас усюды, а гэта мяне вельмі цешыць.

У канцы мая я быў у Варшаве. Вечарам зайшоў у клуб БГКТ на вуліцы Сенатарскай. Хацеў сустрэцца з паэтам Віктарам Шведам. На жаль, не было яго ў гэты дзень. За тое сустрэў Аляксандру Новак, якая там працуе, бадай, „светлічанкай". Высветлілася, што яна родам з Докшыцаў. Мая зямлячка! Жыве ў Варшаве ўжо 50 гадоў, а вось не забыла беларускай мовы. „А чым яна горшая ад другіх моў? — сказала мне пані Аляксандра. — Я заўсёды і ўсюды гавару, што я беларуска. А ў жыцці давала сабе рады лепш ад не адной варшавянкі. Раней у мяне быў свой домік, а цяпер жыву ў новай кватэры ў новым будаўніцтве".

Ёй ужо 72 гады, а выглядае на 65. І штодзённа ад 17 да 20, а то і даўжэй сядзіць у беларускім клубе. „Калі б я не прыйшла сюды, мне б здавалася, што чагосьці не зрабіла. Прыходзяць сюды нашы студэнты ў бібліятэку, адбываюцца тут вечарынкі, сходы. Маем свой варшаўскі хор, які выязджае на выступленні і вельмі падабаецца. А можа вы хочаце напіцца беларускага квасу?" — спытала Аляксандра, а было горача.

Квас быў цудоўны, смакавіты і высветлілася, што зрабіла яго пані Аляксандра. Я ў захапленні быў ад яе, колькі ў ёй энергіі, запалу. Вось якая мая зямлячка!

Спадабаліся мне прыгожыя малюнкі на сцяне клуба, якія, бадай, выканаў у грамадскім пачыне таленавіты мастак-беларус. Я дзякую яму за гэта. Яны прыдаюць беларускаму клубу асаблівую патрыятычную атмасферу. На другі дзень я павінен быў пазваніць Віктару Шведу, ды не выйшла. Шлю яму праз „Ніву" прывітанне, а таксама мілай пані Аляксандры.

Сёння ў пасляабедняй перадачы аб фестывалі савецкай песні ў Зялёнай Гуры перадавалася песенька, якую спявалі мы яшчэ да вайны на Глыбоччыне. Помню яе: „Баба Еўка, дзед Тамаш паехалі на кірмаш". І вось гэтая песенька атрымала бронзавы самавар (здаецца добра пачуў). Мая, беларуская песенька! Ура! Выканаў яе дуэт „Кляпа" (здаецца добра пачуў). Прашу мілую рэдакцыю — больш інфармацыі аб выканаўцах. Адкуль яны, іх прозвішчы, здымак і абавязкова тэкст з нотамі ў „Ніве".

Яшчэ хачу паінфармаваць вас, што мая ўзнагароджаная аповесць выйдзе ў друку тыражом 10 тысяч экз. найпазней у маі 1980 года. Ваш верны чытач і прыяцель".

**Ад рэд.** Пра „Кляпу" чытайце ў наступным нумары.

